Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 300
Адрас для карэспандэнцыі: 220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 14 кастрычніка 1998 г. № 110 (502) Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## «Беларускае пытанне» хвалюе Савет Еўропы

**Намеснік старшыні Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) Роберт Антрэтэр мае намер наведаць Беларусь з 28 па 30 кастрычніка.**

На 3 лістапада ў Страсбургу запланавана паседжанне бюро Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы, дзе, сярод іншых, будзе разглядацца і «беларускае пытанне». Таму мэтай маючага адбыцца візіту Роберта Антрэтэра ў Мінск з'яўляецца атрыманне звестак аб палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы. Чакаецца, што намеснік старшыні ПАСЕ сустрэнецца з прадстаўнікамі як дзяржаўных, так і недзяржаўных структураў.

Становішча ў Беларусі будзе разгледжана і на снежаньскім паседжанні міністраў замежных справаў дзяржаваў, што ўваходзяць у Савет Еўропы. З гэтай мэтай у Страсбург запрашаецца кіраўнік кансультатыўна-маніторынгавай групы АБСЕ ў Беларусі Ханс-Георг Вік.

*БелаПАН*

## Там, дзе жылі паслы

*Пачалася рэканструкцыя комплекса Драздь*

**Упраўленне справамі прэзідэнта ў пачатку верасня заказала пяці праектным інстытутам Мінска праект рэканструкцыі скандальна вядомага комплекса Драздь.**

У рэалізацыі гэтага праекта, як паведаміла «Белорусская газета», удзельнічаюць Белжылпраект, Мінскінжынерпраект, Белгіпрагаз, Грамадзянпраект, а таксама Мінскпраект. Дырэктар Мінскпраекта сп.Інчакоў каменціраваць гэтую інфармацыю адмовіўся. Аднак, з крыніцаў у інстытуце стала вядома, што зараз вядзецца рамонт 9 будынкаў, дзе пражывалі дыпламаты. Раней гэтыя дамы былі разлічаныя на 2 сям'і, але паступіла распараджэнне перапраектаваць іх з разлікам на 1 сям'ю — 4 чалавекі. Плануецца, што ў кожным доме будзе пабудаваная сауна, вялікая спальня (70 кв.м.) і г.д. Устаноўка сучаснай сістэмы ацяплення ацэньваецца ў 5 тысяч долараў, а кандыцыянераў — ад 3 да 5 тысяч долараў. Заказчыкі пажадалі, каб замест фінскай сантэхнікі, якая дэмантуецца, была ўстаноўлена беларуская. Агульны кошт рэканструкцыі трымаюць у строгім сакрэце.

Акрамя рэканструкцыі 9 дыпламатычных домікаў, Мінскпраект рыхтуе праекты будаўніцтва новых дамоў у Драздах.

**Яцэк ГАРБУЗОВІЧ**

## Беражы здароўе!

**Дэфіцыт лекаў у нашых аптэках не заўважыць можа толькі сляпы. Такая сітуацыя і ў Мінску, і ў Гомелі, і ў Магілёве — паўсюль лекаў не хапае.**

Беларускія заводы медыцынскіх прэпаратаў забяспечваюць толькі чацвёртую частку лекаў ад патрэбных. Замежныя пастаўшчыкі, у тым ліку Расія, патрабуюць за лекі валюту, а яе няма. Па словах аптэкараў, асартымент лекаў няўхільна зніжаецца, а кошты на іх імкліва растуць. Звычайны нафтызін (праўда, расійскі), без якога нельга абысціся ў асенне-зімовы перыяд і які ўвесну каштаваў 7 тысяч беларускіх рублёў, цяпер каштуе ...70 тысяч! У тры разы падаражэлі но-шпа, анальгін, вітамінныя прэпараты. Дарэчы, нягледзячы на кошты, у многіх аптэках іх проста няма. Як няма ўжо даўно міксТур і таблетак ад кашлю, настоек валяр'яны, карвалолу, валакардзіну, няма і самага «хадавога» антыбіётыка ампіцыліну.

**Ядзвіга КОПАЦЬ**

## У Мінску ўзрасла колькасць пажараў

**Па словах работнікаў гарадской пажарнай службы, найчасцей пажары здараюцца ў кватэрах, прычым, як правіла, па віне саміх гаспадароў.**

Бывае, што людзі часта пакідаюць на ўключанай пліце ежу, а самі, напрыклад, становяцца ў чаргу ў краме. Здараюцца і неардынарныя выпадкі. Напрыклад, прычынай нядаўняга пажару ў Мінску стала кітайская петарда, якую падлеткі кінулі апоўначы ў кантэйнер са смеццем. Элементы петарды даляцелі да чацвёртага паверха, дзе загарэліся рэчы на двух балконах.

Павялічылася і колькасць ахвяраў агню ў сталіцы. За гэты год загінула 40 чалавек. А ўсяго ў Мінску з пачатку года зарэгістравана 1.600 пажараў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Лукашэнку чакае Сібір

**На 22—23 кастрычніка запланаваны візіт прэзідэнта Беларусі ў Кемераўскую вобласць Расійскай Федэрацыі.**

У праграме знаходжання Аляксандра Лукашэнкі — перамовы з губернатарам Кемераўскай вобласці Аманам Тулеевым, наведванне аднаго з вугальных прадпрыемстваў Кузбаскага басейна, а таксама сустрэча з кіраўнікамі рэгіёна.

Варта адзначыць, што ў Сібіры традыцыйным попытам карыстаюцца вялікагрузныя самазвалы маркі «БелАЗ», якія добра зарэкамендавалі сябе на вугальных разрэзах. У сваю чаргу, Кемераўская вобласць гатова пастаўляць у Беларусь цвёрдае паліва і метал.

*БелаПАН*



**Сёння ў Беларусі адзначаецца Дзень маці.**

## *Канферэнцыі*

***14—16 кастрычніка ў Варшаве праходзіць 3-я Міжнародная канферэнцыя па правах чалавека. Удзел у варшаўскай канферэнцыі прымаюць каля 700 гасцей з усяго свету. Сярод удзельнікаў — праваабаронцы з Паўночнай Карэі, Кітая, Кубы, Славакіі, Чачні, Расіі і Беларусі. На канферэнцыю прыбылі такія вядомыя палітычныя і грамадскія дзеячы, як расійскі праваабаронца Сяргей Кавалёў, прэзідэнт Чачні Аслан Масхадаў, былы старшыня ВС Беларусі Станіслаў Шушкевіч і інш.***

## *Візіты*

***Заўтра ў Мінск прыбывае кіраўнік адміністрацыі Ульянаўскай вобласці Юрый Гарачаў. Ён абмяркуе з прэзідэнтам Лукашэнкам планы двухбаковага супрацоўніцтва.***

# Прафсаюзы вагаюцца

**Дата агульнабеларускай акцыі пратэсту працоўных дагэтуль не вызначаная, але падрыхтоўка да яе вядзецца.**

Прэзідыум Федэрацыі прафсаюзаў беларускай (ФПБ) на сваёй нарадзе ў мінулую пятніцу прыняў рашэнне не спыняць падрыхтоўкі да запланаванай на лістапад агульнарэспубліканскай акцыі пратэсту працоўных, аднак пры гэтым працягваць перамовы з урадам і наймальнікамі. Галоўныя патрабаванні прафсаюзаў — паляпшэнне жыццёвага ўзроўню працоўных, падвышэнне заробкаў. Апрача таго, прафсаюзы патрабуюць ад урада ўвядзення новых сацыяльных нарматываў: пражытачнага мінімума і мінімальнага памеру аплаты працы.

Як паведаміла сакратар выканкама ФПБ Валянціна Палевікова, дакладная дата правядзення акцыі пратэсту працоўных будзе вызначаная не раней за 4 лістапада. Але не выключана, што калі ў ходзе перамоваў з урадам будзе дасягнуты пэўны кампраміс, ФПБ не будзе праводзіць масавых акцыяў.

Валянціна Палевікова тлумачыць, што на сённяшні дзень у Беларусі вельмі цяжка наладзіць масавыя пратэсты рабочых: у Мінску на вуліцы гатовыя выйсці не больш за 10-12 тысяч чалавек, у правінцыі такіх «актывістаў» можна лічыць на сотні. *«Для таго, каб акцыя прайшла паспяхова і яе патрабаванні былі пачутыя, трэба сабраць не менш за 50 тысяч чалавек»*, — кажа В.Палевікова.

Дарэчы, працоўныя на мінскіх прадпрыемствах зарабляюць значна больш, чым іхнія калегі ў правінцыі. Па дадзеных прафсаюзаў, на апошнім тыдні на многіх мінскіх прадпрыемствах былі істотна падвышаныя заробкі.

Тым не менш, прафсаюз работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання — найбуйнейшы беларускі прафсаюз, які ўваходзіць у склад федэрацыі, — ужо прызначыў дату агульнарэспубліканскага мітынгу. Плануецца, што ён пройдзе 4 лістапада. Сваю падтрымку маючай адбыцца акцыі выказалі найбуйнейшыя апазіцыйныя партыі краіны.

Тым часам, мітынг членаў Свабоднага прафсаюза металістаў Мінскага аўтамабільнага завода, запланаваны на 14 кастрычніка, перанесены на больш позні тэрмін. Як паведамляе БелаПАН, прычынай пераносу мітынгу сталі дзеянні Мінгарвыканкама, які ўнёс карэктывы ў заяўку прафсаюзнікаў. Сталічныя ўлады, у прыватнасці, забаранілі членам прафсаюза праводзіць акцыю каля адміністратыўнага будынка аўтазавода, прапанаваўшы ў якасці альтэрнатывы парк культуры і адпачынку імя 50-годдзя Кастрычніка.

Савет Свабоднага прафсаюза металістаў палічыў гэтую ўмову Мінгарвыканкама непрымальнай, паколькі парк знаходзіцца далёка ад месца размяшчэння адміністрацыі МАЗа, а менавіта ёй найперш і адрасаваны прэтэнзіі рабочых. Кіраўнікі прафсаюза вырашылі падаць у гарвыканкам чарговую заяўку — на правядзенне мітынгу 28 кастрычніка непасрэдна на тэрыторыі аўтазавода.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Транспарт: новыя цэны

*Даражэюць паслугі ўсіх відаў транспарту*

Першымі падымуцца цэны на праезд у прыгарадных і міжгародніх аўтобусах. Гэта адбудзецца ўжо з 16 кастрычніка. За кожны кіламетр дарогі ў звычайным прыгарадным аўтобусе трэба будзе плаціць 700 рублёў, замест былых 540. У «мяккім» аўтобусе квіткі будуць даражэйшымі на 30 рублёў за кожны кіламетр.

Як паведамляе міністэрства аўтатранспарту, рыхтуецца павелічэнне тарыфу і на паслугі таксі. Пакуль кіламетр праезду «на маторы» каштуе 11 тысяч рублёў. «Новая цана будзе ад 13 да 15 тысяч за кіламетр — у кожным горадзе можа быць па-свойму», — патлумачылі ў аддзеле фінансаў і тарыфаў міністэрства.




Рыхтуюцца да павелічэння тарыфаў і ў Мінскім упраўленні гарадскога транспарту. З 1 лістапада праезд у аўтобусе, тралейбусе, трамваі і метро будзе каштаваць 3 тысячы рублёў, замест цяперашніх 2.600. Але гэта ўсё роўна не вывядзе гарадскі транспарт на ўзровень рэнтабельнасці, кажуць транспартнікі і прагназуюць, што з 1 студзеня прыйдзецца падымаць тарыфы да 4.000 рублёў.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Ярмошын у Германіі

Старшыня Мінгарвыканкама Уладзімір Ярмошын і кіраўніцтва аб'яднання «Белкамунмаш» з 13 па 16 кастрычніка наведаюць гарады Эсен і Дзюсельдорф (Германія). Асноўная мэта паездкі — правядзенне перамоваў з кіраўніцтвам нямецкіх фірмаў аб магчымасці набыцця «Белкамунмашам» лініі па вытворчасці шасі для трамваяў.

## Левы пікет

Прадстаўнікі беларускіх левых сілаў маюць намер пікетаваць прадстаўніцтва ААН у Беларусі. Пікет, які ладзіць кампартыя Беларусі, запланаваны на 23 кастрычніка. Мэтай акцыі з'яўляецца пратэст супраць пазіцыі ААН, якая, на думку арганізатараў пікета, не прымае належных намаганняў для мірнага ўрэгулявання косаўскага канфлікту. Чакаецца, што да пікету камуністаў далучацца прадстаўнікі іншых аб'яднанняў левага накірунку.

*БелаПАН*

# «Беларусь – краіна сапраўднага народаўладдзя»

Нядаўна мне патэлефанавалі з «Беларусьфільма» і прапанавалі цікавую справу: напісаць сцэнар дакументальнага фільма на тэму «правы чалавека». Шчыра прызнаюся, загарэўся. Мо, думаю, наверсе штосьці змянілася?

Расчараванне наступіла даволі хутка, калі мне далі пачытаць паперу за подпісам дырэктара студыі сп.Лук'янчыкава. З яе высветлілася, што заказ паступіў на «Беларусьфільм» з міністэрства культуры, будзе рабіцца шэраг сюжак пад агульным дэвізам «Беларусь — краіна сапраўднага народаўладдзя». Пасля гэтага заставалася толькі засмяяцца. Каб «кіношнікі» лепш разумелі, я распавёў ім шэраговую гісторыю пра звычайнага вадзіцеля тралейбуса, якога звольнілі толькі за тое, што ён быў членам Свабоднага прафсаюза і «каламуціў ваду» ў сваім дэпо. Некалькі гадоў ён не можа аднавіцца на працы. На ўзроўні Вярхоўнага суда ягоная барацьба плаўна затармазілася, і вадзіцель цяпер выходзіць на міжнародную арэну. І гэта — выпадак самы звычайны, ёсць сюжэты больш «крутыя».

На развітанне я пажадаў членам творчай групы поспехаў у пошуках таго, чаго няма. Шкада іх, бо сп.Лук'янчыкаў загадаў знайсці сцэнарыста сярод моцных журналістаў. Але тыя, хто можа — не стануць, той, хто стане — не могуць. Канечне, знойдуць якога-небудзь кшталту Зімоўскага. Атрымаецца, праўда, бяздарная хлусня, разлічаная на інтэлектуальны ўзровень прэзідэнцкага электарата, але ж даручэнне трэба выканаць ды і зарабіць хочацца. Мне таксама хацелася, аднак...

Я не стаў нагадваць стваральнікам фільма шырокавядомыя прыклады (справы Шыдлоўскага, Кудзінава, Клімава), а звярнуў увагу на праблемы «простых людзей», якія жадаюць дабіцца справядлівасці выключна афіцыйным шляхам.

Звычайна яны праходзяць усе ступені, пачынаючы ад суда першай інстанцыі і канчаючы Вярхоўным. Потым спрабуюць апеляваць праз СМІ і, нарэшце, прыходзяць да высновы: «Ну, нічога, я да Лукашэнкі дабяруся, ён вам дасць!» Вера заканчваецца, калі іх запісваюць на прыём да прэзідэнта на 2015 год (дакументальны, дарэчы, выпадак). Некаторыя і пасля гэтага працягваюць верыць у «бацькаву справядлівасць», але пераважная большасць пачынае разумець відавочныя рэчы. Напрыклад, што суддзяў, якія, на іх думку, судзяць несправядліва, прызначыў на пасады «справядлівы» прэзідэнт. Што дырэктара завода, які выкінуў «праўдашукальніка» на вуліцу, прызначае прэзідэнцкі міністр. Што кіраўніка «вертыкалі», да якога не прабіцца — не выбіралі, а прызначылі (і ўсе добра ведаюць, хто).

Ну і нарэшце, што Беларусь не ёсць «краіна сапраўднага народаўладдзя», а тэрыторыя, дзе правіць чалавек, без дазвола якога тут і мухі не лётаюць.

**Сяргей ШАЎЦОЎ**

*Ліст у рэдакцыю*

Вось такая шыльда (***гл. здымак***) з'явілася нядаўна ў Брэсце на адным з будынкаў па вуліцы Адама Міцкевіча. Калі верыць напісанаму на шыльдзе, то менавіта ў гэтым месцы знаходзіцца «кубло» тых, з кім так самааддана змагаецца прэзідэнт Лукашэнка.

**І.ЛАЎРОЎСКАЯ,**
*г.Брэст*




# Власть бизнесменов любит. Но не всех

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

Выступая недавно на учредительном съезде конфедерации «вшивых блох», Александр Лукашенко разделил этих «блох» на черных и белых. Он особо подчеркнул свою благосклонность к предпринимателям, которые заняты производством, а не коммерцией. Им Лукашенко в который раз посулил и налоговые льготы, и облегченный порядок регистрации, и вообще всяческую поддержку. А вот коммерсантам — совсем наоборот: *«Нам не надо в нашей стране какие-то посредники, чтобы отдать трактор колхозу»*. Что тут сделаешь — не жалует «батька» коммерцию, и к предпринимателям-посредникам испытывает прямо классовую ненависть.

Но коль предприниматели предпочитают заниматься не производством, а чем-то иным — значит, производственная деятельность им невыгодна, не располагают к ней экономические условия. Одними обещаниями этого факта не изменишь. А что думают на этот счет оппоненты главы государства?

**Геннадий КАРПЕНКО**, премьер «теневого правительства»:

— Действительно, производство поддерживать нужно, но для этого не надо бороться ни с какими коммерсантами. Поддержка отраслей, которые признаны в стране приоритетными, должна осуществляться путем налоговых льгот, но не путем подавления других видов деятельности — они тоже должны развиваться.

Призывы к предпринимателям заняться производством глупы и несостоятельны, потому что сам Лукашенко собственными действиями привел к ситуации, в которой развитие производства невозможно.

Сегодня в Беларуси нет условий, необходимых для развития производства. Нет гарантий для инвестиций, нет законодательной базы и нет стабильной финансовой системы. Для любого производства нужны более или менее долгосрочные вложения средств. А кто же будет вкладывать средства в наших условиях: вы вложите сегодня какую-то сумму, а завтра вас заставят играть по другим правилам.

Что там говорить об открытии новых производств, если между уже существующими предприятиями нет нормальных денежных отношений — их подменили собой дикие бартерные операции. Это никак не способствует развитию производства. Кроме того, в Беларуси нет возможности приобретать валюту. А за наши деньги никаких технологий не купишь и никакого нового производства не откроешь.

Налоговая система Беларуси тоже не благоприятствует развитию производства. Лукашенко обещает это исправить, — но кто поверит человеку, который уже не раз обманывал?

И здесь мы подошли к самому главному фактору: к Лукашенко нет доверия. А раз нет доверия, с ним не будут иметь дела ни западные инвесторы, ни свои, внутренние. Не случайно за период правления Лукашенко экспорт из нашей страны уменьшился на 20%. Это показатель того, что политика Лукашенко не признана ни отечественным бизнесом, ни внешним миром.

**Александр ПОТУПА**, вице-президент Союза предпринимателей:



— Посредник — это системный элемент, необходимый для функционирования экономики. Вне производственной, торговой и финансовой систем экономика работать не может.

В основе представлений Лукашенко лежит идиотская теория о том, что, например, крестьянин, произведший продукцию, должен сам ехать на рынок и ею торговать. В советские времена существовало это абсурдное явление — «колхозный рынок». С ним Лукашенко знаком с детства — и именно по образцу колхозного рынка он строит экономику Беларуси.

В экономически развитых странах количество посредников огромно. Поскольку именно посредники стимулируют экономическую активность: чем больше они найдут покупателей для моего товара — тем больше и качественнее я буду производить.

Товар важно не только произвести — его важно продать и получить прибыль. Для экономики очень хорошо, когда развита система посредников: усиливается конкуренция, улучшаются технологии, повышается эффективность. А лишних, ненужных посредников рынок не терпит. Их количество он контролирует лучше, чем любой президент.

С проблемой торговли экономика Беларуси столкнулась еще острее, чем с проблемой производства. Если разогнать всех мелких торговцев и сосредоточить всю торговлю в одних руках, как того хочет Лукашенко, — тогда нашей экономике вообще придет конец.

# На пенсію не пражывеш



**БЕЛАРУСКІЯ** пенсіянеры доўга чакалі абяцанай прыбаўкі да пенсіі, а тая прыбаўка — адны слёзы. Знаёмая бабулька, напрыклад, планавала з «новай» пенсіі купіць сабе і ўнукам торцік, а зяцю з мужам, як мае быць, пляшку гарэлкі. Але ж прыбаўкі той — 200 тысяч «зайчыкаў», на ўсё гэта не хапіла.

Таму ўнукі атрымалі абяцанае, а дзеду з зяцем прыйшлося па старой звычцы ладзіць у лазні самагонны апарат. Бо, канешне, дзяржава клапоціцца пра насельніцтва, але ж яго зашмат і ўсе хочуць піць і есці. Дзе ж на ўсіх набярэшся? Тых жа пенсіянераў у нас прыходзіцца, па словах міністра сацыяльнай абароны Вольгі Даргель, цэлых 100 на 160 працаздольных. І тэндэнцыя такая, што колькасць працуючых змяншаецца, а колькасць пенсіянераў расце. Так што абяцанкі — абяцанкамі, а «чарку і скварку» трэба здабываць самому. І гэтая філасофія на ўсё жыццё, да самай смерці.

**Канстанцін КАШЭЛЬ**




# «Форд-Юніон» стаіць

## *Але рабочыя атрымлiваюць 100-працэнтную зарплату*

**Крызіс у Расіі вымусіў кампанію «Форд Мотар» шукаць новыя рынкі збыту. Пра гэта заявіў журналістам генеральны дырэктар беларуска-амерыканскага СП «Форд-Юніон» Ніл Кэмпбэл.**

Па яго словах, расійскі крызіс — гэта сёння самая галоўная праблема для СП. *«Тое, што здарылася з расійскім рублём, адбілася на працы нашага завода і на збыце нашай прадукцыі ў Расіі»*, — сказаў спадар Кэмпбэл. Ён паведаміў, што зараз ажыццяўляюцца прамыя пастаўкі аўтамабіляў «Форд» у Егіпет тамтэйшаму дылеру, пробныя пастаўкі ажыццяўляюцца ў Азербайджан і Казахстан. Акрамя гэтага, плануюцца пастаўкі аўтамабіляў у Балгарыю і ў невялікіх аб'ёмах — у краіны Прыбалтыкі.

Нагадаем, што асноўная вытворчасць завода «Форд-Юніон» ужо каля месяца знаходзіцца ў вымушаным прастоі. Адбываецца гэта з-за таго, што расійскія дылеры, якім пастаўлялася 80 працэнтаў сабраных у Беларусі «фордаў», сёння пакуль не ў стане за іх разлічвацца. Нягледзячы на складаную сітуацыю, ніякіх звальненняў на заводзе «Форд-Юніон» няма, а рабочыя атрымліваюць 100-працэнтную зарплату.

*БелаПАН*

## Премия за «Виагру»

Нобелевская премия по медицине присуждена трем американским фармакологам — Роберту Фурчготу, Луи Игнарро и Фериду Мураду — за исследования главного загрязнителя воздуха — окиси азота, образующейся при сгорании азота. Троица выясняла механизмы передачи сигналов газом в нервную систему, а в результате расширившихся исследований на сей счет удалось выйти на лекарства нового поколения для весьма разных заболеваний. Самое шумное из них — лекарство от импотенции «Виагра». Что до меркантильной стороны дела, то троица получит 978 тысяч долларов и будет делиться друг с другом.

## Три миллиона за жизнь Рушди

Плохая новость для британского писателя Салмана Рушди: иранский религиозный фонд «Хорад-15» увеличил сумму премии за его убийство еще на 300 тысяч долларов. Теперь жизнь Рушди оценивается иранскими фундаменталистами более чем в 3 миллиона долларов.

В 1989 году духовный лидер Ирана аятолла Хомейни осудил Салмана Рушди за «святотатственные высказывания», которые Рушди допустил в своей книге «Сатанинские стихи». И сразу же нашелся религиозный фонд, который назначил премию за убийство британского писателя — 2 миллиона долларов. В 1997 году сумма была увеличена до двух с половиной миллионов. А на прошлой неделе фундаменталистский студенческий союз пообещал убийце Рушди еще 333 тысячи долларов сверху.

М.К.

# Олигархи обнищали?

Еще недавно в России маловразумительное слово «олигарх» звучало гордо. По крайней мере, самим олигархам гораздо больше нравилось, когда тот самобытно-государственный строй, который они создали в России, называли именно «олигархическим», а не «бандитским капитализмом», как позволил себе выразиться Борис Ельцин во время очередного приступа реформаторской горячки. Сейчас же в западной прессе время от времени возрождаются слухи о том, что российский финансовый кризис был спровоцирован самими же российскими олигархами. По крайней мере, журнал *Newsweek* приводит неподтвержденные высказывания российской прессы о якобы состоявшейся в июле встрече на Французской Ривьере Бориса Березовского и Виктора Черномырдина с целью разработки плана возвращения последнего на пост премьер-министра при помощи имеющегося у Березовского компромата на финансовые операции членов ельцинского семейства. То, что в результате кризиса пострадали не в последнюю очередь и сами олигархи, служит, скорее, подтверждением не их невиновности, а их дремучей некомпетентности.

Славная компания российских олигархов включала в себя (по версии журнала *The Economist)* следующих товарищей: Рэма Вяхирева, Бориса Березовского, Владимира Потанина, Вагита Алекперова, Михаила Ходорковского, Владимира Гусинского, Александра Смоленского и Михаила Фридмана. Теперь же, по утверждению Вячеслава Никонова, президента московской исследовательской группы «Основы государственного строя», олигархов в России больше нет, так как все они стали банкротами.

Газета *International Herald Tribune* решила проследить жизненный путь типичного российского олигарха, и ее выбор пал на Владимира Потанина ***(на снимке)***. Владимир родился в семье видного чиновника из министерства внешней торговли, который обеспечил достаточно гарантированную карьеру и для своего сына. После окончания института международных отношений Владимир был принят на службу в отцовское министерство. Свободно владеющий английским и французским, он очень скоро приступил к курированию госторговли сырьем. Однако с 1991 года занятие той же самой деятельностью он продолжил не по долгу службы, а уже из своего личного интереса: именно в это время он создал свою собственную компанию «Интеррос», которая продолжала осуществлять те же самые операции между теми же крупнейшими государственными российскими экспортерами, с одной стороны, и западными импортерами — с другой.

Следующим шагом на пути становления российского олигарха стало открытие в 1993 году «Онэксимбанка», использовав в качестве уставного капитала средства государственного внешнеторгового банка. Как подчеркивает *International Herald Tribune*, в то время открыть в России и частный банк мог любой, у кого нашлось 1,5 миллиона долларов и помещение под офис. *«Среди тысяч частных банков, открывшихся при помощи российских государственных и зарубежных банков, большая часть мелких и средних банков принадлежала криминальным элементам или коррумпированным чиновникам, самые же крупные и малочисленные принадлежали олигархам и предназначались для создания финансовых империй и спекуляций»,* — несколько замысловато сформулировала свою мысль все та же газета. К концу прошлого года активы банка насчитывали уже 3,8 миллиарда долларов, что по западным меркам является более чем скромной суммой, а в условиях России позволили банку стать самым крупным и самым престижным частным банком. В целом же весь холдинг, принадлежащий 37-летнему Владимиру Потанину, оценивался в 10 миллиардов долларов. Теперь же на банке висит, по информации западных банкиров, 700 миллионов долларов вторичных обязательств, причем ни сам олигарх, ни представители руководства банком комментировать это утверждение не соглашаются.

Зато сам Владимир Потанин говорит, что все его богатство в результате финансового обвала сократилось до скудных 2 миллиардов долларов. На его предприятиях еще недавно трудились 400 тыс. человек, но сейчас, после массовых сокращений, даже трудно сказать, сколько же счастливчиков сохранит свое место. Престижные «Известия», также принадлежащие Потанину, терпят ужасающую нищету. По оценкам же западных бизнесменов, состояние Потанина намного меньше заявленных им 2 миллиардов долларов: они утверждают, что только «Интеррос» еще может потянуть максимум на пару сотен миллионов долларов, да и та в ближайшее время может обесцениться до нуля.

*«Незамысловатая правда заключается в том, что в России было слишком много коррупции и слишком мало реформ,* — говорит Андерс Аслунд, аналитик *Carnegie Endowment for International Peace. — Всему этому предстоит сгореть в огне кризиса, и вопрос заключается лишь в том, что будет построено после тушения пожара».*

Западные оптимисты утверждают, что бывшим российским олигархам не грозит умереть в нищете, а сам Владимир Потанин признает, что *«происходят большие перемены и роль олигархов существенно снизится»*. Дальше был процитирован следующий его постулат: *«Когда олигархи утратят свое влияние, они утратят свое негативное влияние. Я же не потеряю своего позитивного влияния».*

*По материалам зарубежной прессы подготовила*
**Оксана ПРИХОДЬКО**




*В московских казино как разыгрывали машины, так и продолжают разыгрывать — кризис их, похоже, задел не сильно.*

# Стажировка в США

*Для представителей бизнеса и негосударственных организаций*

*Community Connections* — это новая программа международного обмена, организуемая Информационным Агентством Соединенных Штатов *(USIA)* при содействии Информационной Службы США *(USIS)* в Беларуси. В рамках программы 100 специалистов, занятых в частном бизнесе и негосударственном секторе, получат возможность пройти стажировку в течение 3—5 недель в американских компаниях и организациях в различных городах США.

Основные цели программы: ознакомление белорусских специалистов с американским бизнесом, деятельностью правительственных и негосударственных организаций, создание деловых и культурных связей между региональными центрами Беларуси и Соединенных Штатов. Особое значение придается созданию долговременных связей на региональном уровне, которые могли бы продолжаться после окончания программы. Все расходы по проведению программы несет американская сторона. Отбор участников будет проводиться в семи городах республики — Бресте, Витебске, Гомеле, Гродно, Могилеве, Минске и Молодечно.

Программа *Community Connections* предполагает участие специалистов двух категорий. К первой категории (50 человек) относятся владельцы или руководители частных компаний среднего и малого бизнеса, их ведущие специалисты, менеджеры верхнего и среднего звена, а также независимые предприниматели. Вторая категория (50 человек) включает специалистов-профессионалов, занятых в различных негосударственных структурах, так называемом третьем секторе. К ним относятся различные неприбыльные, неправительственные организации, а также профессиональные ассоциации и союзы.

Программа носит не столько учебный, сколько практический характер. Места проведения стажировок будут подбираться в соответствии с профилем деятельности отобранных участников. Проживать участники программы будут в американских семьях.

Непосредственную координацию программы в Беларуси и отбор участников проводит Белорусское отделение Американского совета по сотрудничеству в области образования *(ACCELS)*, находящееся в Минске.

Отбор будет проводиться в виде открытого конкурса. В каждом из перечисленных городов сотрудники *ACCELS* проведут презентацию *Community Connections*, в которой будет рассказываться о самой программе и условиях проведения конкурса. Все желающие смогут получить дополнительную информацию, услышать ответы на вопросы и получить анкеты. О проведении презентаций в каждом из городов будет объявлено дополнительно в республиканских и региональных средствах массовой информации.

Отбор участников будет проведен в два этапа и будет продолжаться до конца 1998 года. На первом этапе будут рассмотрены анкеты, которые выполняют роль заявки для участия в конкурсе. Анкеты должны соответствовать ряду формальных требований — они должны быть правильно и подробно заполнены на английском языке и иметь фотографии. Следует учитывать, что для двух различных категорий участников существует две различные анкеты. Кандидаты должны использовать тот тип, который соответствует их роду деятельности (бизнес либо третий сектор). Анкеты, не отвечающие указанным требованиям, рассматриваться не будут. Анкеты *Community Connections* можно получить в минском офисе *ACCELS*, либо использовать их копии, полученные через организации, связанные с *ACCELS* в других региональных центрах.

Второй этап — собеседование. По результатам второго этапа будут определены финалисты программы, которые немедленно будут уведомлены об этом.

Для представителей бизнеса одним из основных условий, необходимых для участия в программе, является хорошее знание английского языка. Это должен быть уровень, позволяющий им свободно общаться с членами принимающих их американских семей и своими американскими партнёрами без переводчиков. Для представителей другой категории участников (третий сектор) знание языка не является обязательным. Общим требованием является определенный профессиональный уровень — опыт работы, компетентность и профессионализм в своей сфере деятельности.

Поездки участников в Соединенные Штаты запланированы в течение первого полугодия 1999 года и будут проходить для представителей различных городов в разное время. Перед отъездом в США участники пройдут специальную краткосрочную программу ориентации. Цель такой программы — познакомить участников с существующими различиями и особенностями жизни в США, что поможет им быстрее адаптироваться в новых условиях.

Получить или сдать анкеты *Community Connections*, а также получить дополнительную информацию о программе можно в офисе *ACCELS*:

***Минск, 220005, пр.Скарины, 31-18, ACCELS, тел./факс: (017) 236-68-83***

***Белорусское отделение Американского совета по сотрудничеству в области образования***



# Любіце дзяцей такімі, якія яны ёсць

*Парады бацькам*

Адно з самых балючых пытанняў для бацькоў — школьныя няўдачы любімага дзіцяці. Так хочацца, каб у ягоным дзённіку красаваліся адны «пяцёркі», што некаторыя мамы і таты гатовыя самі сесці за парту. Але ж рэцэпт поспеху не ў гэтым, дапамагчы маленькаму «няўдачніку» не так проста. Спецыялісты раяць пашукаць прычыны «двоек» у індывідуальных асаблівасцях вашага дзіцяці.

Вельмі цяжка даводзіцца ў школе вучню, які абвострана рэагуе на адзнакі. Дастаткова, каб настаўніца кінула на яго халодны позірк — і дзіця «ўпадае ў ступар». І ніякія грозныя «двойкі» не прымусяць яго лепш вучыцца. Яшчэ адзін «фактар рызыкі» — высокая актыўнасць дзіцяці. Калі яму цяжка сядзець на адным месцы, трэба пастаянна рухацца, ён проста фізічна няздольны трымаць сябе спакойна на працягу цэлага ўрока. І наадварот, ёсць дзеці марудлівыя, яны не паспяваюць за тэмпам работы іншых. Відавочна, што падобныя асаблівасці псіхікі не ёсць недахопы інтэлекту, кожны з такіх дзяцей лёгка справіцца з любымі заданнямі, калі толькі настаўнікі і бацькі трошкі дапамогуць ім у гэтым.

**НЕПАРАЗУМЕННІ** паміж бацькамі, настаўнікамі і дзецьмі часам вырашаюцца зусім проста. Напрыклад, адна настаўніца першага класа заўважыла, што на словы «Дзеці, адкрыйце кніжкі» яе вучань Саша ніяк не рэагуе. Настаўніца вырашыла, што ў хлопчыка паталагічная няўважлівасць, а справа была ў тым, што маленькага Сашу раней ніхто не называў «Дзеці», і ён не разумеў, што адкрыць кніжку просяць менавіта яго.

У падобных сітуацыях бацькі, ведаючы сваё дзіця, павінны прадбачыць праблему. Які б вопытны ні быў настаўнік, ён сустракае вашае дзіця 1 верасня ўпершыню ў жыцці, і зусім не абавязкова адразу бачыць яго наскрозь. Абавязкова трэба папярэдзіць педагогаў пра асаблівасці характару дзіцяці — як і пра тое, што дзіця дрэнна бачыць ці чуе.

**ГАЛОЎНАЯ** задача бацькоў — псіхалагічна падрыхтаваць сына ці дачушку да школы, растлумачыць, што і як у школе трэба рабіць. І, зразумела, не губляць з дзіцем псіхалагічнага кантакту, не пакідаць маленькага чалавека сам-насам з «дарослымі» школьнымі праблемамі. Нават калі ў вучобе справы зусім дрэнныя, спецыялісты заклікаюць бацькоў пазбягаць рэзкіх слоў і натацыяў. Самае дробнае дасягненне — нават калі гэта адна-адзіная някепская напісаная літара — бацькі павінны адзначыць пахвалою: «Малайчына!», «Добра атрымалася!». Калі ў вас саміх у школе былі падобныя праблемы, шчыра раскажыце дзіцяці, што ў мамы (таты) спачатку таксама не ўсё было цудоўна. Гэта вельмі падбадзёрыць дзіця: бацькі ж калісьці справіліся з гэтымі праблемамі, значыць, і ў яго таксама атрымаецца.

**НЕ ВАРТА** нікому гаварыць, што ваш школьнік у нечым саступае іншым дзецям. Ці не бачылі вы звыклую карціну, калі збіраюцца дзве мамы і пры сваіх чадах пачынаюць скардзіцца, наколькі няўмелыя іхнія дзеці у параўнанні з Вовачкам з суседняга пад'езда... Ці, напрыклад, бабуля прыводзіць унука ў школу і пры ўсіх заяўляе: «Хутчэй забярыце гэтага гультая, не магу яму даць рады!» Гэта проста недапушчальна, бо ў рэшце рэшт дзіця паверыць у сваю непаўнавартаснасць. І ў той жа час бацькі павінны аб'ектыўна ставіцца да няўдачаў дзіцяці, а не бегчы адразу ў школу з крыкам, што вашая дачка ці сынок самыя лепшыя. Можа быць, «двойка» з'явілася ў дзённіку проста таму, што дзіця не зразумела задання? Лепш за ўсё разабрацца ў спакойнай хатняй абстаноўцы.

А ўвогуле, далёка не ўсім бацькам шанцуе на дзетак-выдатнікаў. Усё, што сапраўды могуць зрабіць мамы і таты — гэта навучыцца любіць сваіх дзяцей незалежна ад адзнакаў і школьных поспехаў — такімі, якія яны ёсць. Гэта абавязкова ім дапаможа, а галоўнае, — яны напэўна вырастуць шчаслівымі людзьмі.

*Падрыхтавала*
**Алена СУРКО**

# В Индии не уродился лук

**Лук заставляет домохозяек плакать, когда они его чистят. Но когда его нет, он заставляет плакать не только домохозяек.**

Индия стоит на пороге национального кризиса, все составляющие которого налицо: проходят демонстрации, вспыхивают мятежи, газеты публикуют гневные филиппики. Дело все в том, что в Индии не уродился лук, а используется он чуть ли не во всех национальных блюдах. Торговцы воспользовались этим и вздернули цены в восемь раз. Да и по новой цене лук надо поискать, а если найдешь — он может оказаться отвратительного качества. Введено ограничение: каждый индиец имеет право приобрести не больше одного килограмма лука в неделю. Газета *Indian Express* в редакционной статье клеймит правительство: как может нация, гордящаяся достижениями в области ядерных исследований, так бездарно планировать свое сельскохозяйственное производство! Причем, политическая жизнь Индии уже не в первый раз находится под таким влиянием «слезоточивой» овощной культуры. В прошлом году богатый урожай лука привел, наоборот, к падению цен, и сельхозпроизводители требовали государственных дотаций, чтобы покрыть свои потери. А Индира Ганди в свое время даже отправила в отставку социалистическое правительство, которое осмелилось поднять цены на лук.

# Труба дело!

**Заокеанская эпопея под названием «Билл и Моника» воспламенила коммерческое воображение Манфреда Амрайна из германского города Любек.**

Он решил запатентовать торговую марку «Моника Левински», полагая, что уже одно это имя резко повысит спрос на любой товар, который им будет назван. Интересно, что Манфред Амрайн — хозяин фирмы, производящей духовые музыкальные инструменты.

# Принца приземлили

**Вылетая на экологический семинар в Зальцбург, британский принц Чарльз хотел приземлиться в аэропорту этого австрийского города в полночь.**

Однако он недооценил экологической бдительности таможних властей, по распоряжению которых движение самолетов в аэропорту ограничено периодом с 6 до 23 часов. *«Шум вредит здоровью наших жителей, так что тут не может быть исключений даже для принцев»*, — изрекли власти. Пришлось Его Высочеству сесть в Мюнхене, а уж оттуда автомобилем добираться до Зальцбурга.

# Муж на час

**Жаклин Хитер, хозяйка фирмы *Bureau Gentle Men* в Амстердаме, убеждена: множество преуспевающих женщин в силу своей загруженности делами не могут обзавестись спутником жизни.**

А ведь правила этикета требуют, чтобы дама появлялась на публике не одна. Вот г-жа Хитер и сдает таким дамам «мужей» напрокат. Работники ее фирмы — это респектабельные господа, умеющие в равной степени умно порассуждать о курсах акций и о восточных культурах, словом, светские львы, с которыми не стыдно показаться на презентации. *«Важно только, чтобы новоиспеченные «супруги» загодя пообщались друг с другом*, — замечает г-жа Хитер. — *А то в разгар беседы начнут путаться в числе своих детей или в названиях курортов, на которых отдыхали»*.

# Скакун за 5 миллионов

**Наследный принц эмирата Дубай, министр обороны ОАЭ шейх Мухаммед бен Рашед Аль Мактум купил на лондонском аукционе самую дорогую в мире лошадь, заплатив за нее 5,36 миллиона долларов.**

Годовалый скаковой жеребец благородных кровей достался принцу после жесточайшей борьбы за живой лот, продолжавшейся более четырех часов. Имя продавца не называется, однако известно, что его чистая прибыль составила 5 миллионов долларов. Жеребенок был куплен им в ноябре прошлого года на аукционе в американском штате Кентукки «всего» за 360 тысяч долларов. Специалисты отмечают, что астрономическая сумма выложена за покупку «авансом», с учетом потенциальных возможностей коня. Ему предстоит как минимум год интенсивных тренировок, прежде чем он примет участие в скачках, столь популярных в арабских государствах Персидского залива. Мировой рынок скаковых лошадей переживает сейчас расцвет после продолжавшегося больше десяти лет застоя.

# Грустный день для мафии

**В груды битого мрамора превратились 25 шикарных особняков в районе Эболи на юге Италии в результате армейской операции с целью ликвидации незаконно возведенных объектов.**

Тяжелые бульдозеры сровняли с землей два с половиной десятка роскошных вилл, которые принадлежали местным «мафиози». Дворцы были воздвигнуты в 70 - 80-е годы без разрешения властей. Их владельцы — члены неаполитанского преступного клана «каморра». Санкцию на столь радикальные меры по восстановлению социальной справедливости дал городской совет Эболи.

# Эту даму скоро узнает Британия



Мерлин Лоутер поставит свою подпись на дензнаках Английского банка под надписью, гарантирующей обеспеченность каждой купюры золотом. Она станет первой женщиной на посту главного кассира этого банка.

# Грандиозная свадьба



**Такой грандиозной свадьбы еще не видели древние пирамиды Гизы.**

Сразу 432 пары молодых египтян в присутствии более двух тысяч родственников и друзей одновременно соединили свои судьбы у подножия Великих пирамид. И хотя массовые свадьбы организовываются в Египте каждый год (чтобы помочь молодежи сократить свадебные расходы), подобной не было еще ни разу. Приурочено торжество было к широко отмечающейся в стране 25-й годовщине октябрьской войны 1973 года, в которой Египет и Сирия добились наибольших успехов за время их военной конфронтации с Израилем. В число 864 счастливчиков попали не все желающие. Оргкомитету свадебной церемонии пришлось выбирать их из значительно большего числа заявок. Социальный статус молодоженов тоже разный. Были среди них и врачи, и служащие госсектора, и рабочие. Все расходы взял на себя оргкомитет, который, помимо всего, вручил вступавшим в брак ценные подарки.

# Как на самолете



**32-летний Алек Беней из Женевы установил новый мировой рекорд на велосипеде, оборудованном реактивным двигателем.**

Он промчался по полосе швейцарского военного аэродрома в Пайерне, где проходил заезд, со скоростью 236 километров в час, превысив на 24 км/ч прежний рекорд. Вот такая машина. Чем не самолет?

*По материалам журнала «Эхо планеты» и сообщениям информационных агентств подготовил* **Михаил ГРИГОРЬЕВ**

# В каком вине истина?

Французы говорят, что белое вино создано для утоления жажды, красное — для наслаждения, розовое — для любви. Какое вино когда и с чем пить — это действительно целая наука. Начнем с самых общих правил. Они достаточно просты: сухие вина подаются прежде, чем сладкие, белые — прежде, чем красные, молодые — прежде, чем старые. За каждым из этих постулатов — многолетние традиции, поэтому лучше принять их на веру.

Если нужно выбрать какое-то одно вино, то в жару лучше остановиться на белом. Охлажденное, оно действительно неплохо утоляет жажду. Большинство сухих белых вин хороши в качестве аперитива. Они замечательно сочетаются с легкими холодными закусками, блюдами на основе яиц, супами и бульонами, рыбой, белым мясом.

Красные сухие и полусухие вина обычно обладают более насыщенным ароматом, а потому и считаются более «вечерними». Их принято подавать к блюдам из красного мяса, жаркому, шашлыку, твердым сырам.

Сладкие вина подаются на десерт. Какое блюдо каким вином запивать — конечно, не догма. Многое зависит от личных вкусов и привычек. Главное, чтобы еда не «заглушила» вкус вина. Ведь, отведав, к примеру, жаркое из баранины с какой-нибудь острой приправой, тонкого аромата нежного белого вина вы просто не почувствуете.

**З.Н.**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1248 Нумар падпісаны ў друк 13/10/98 (15:30) Наклад — 18 300.